Праваабарончы
Веснік
чэрвень 2014
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ВЫЗВАЛЕНЫ ПРАВААБАРОНЦА АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

## Улады трымалі кіраўніка ПЦ «Вясна» за кратамі амаль тры гады

21 чэрвеня з Бабруйскай калоніі быў раптоўна вызвалены палітвязень Алесь Бяляцкі.

Вызваленне для праваабаронцы стала поўнай нечаканасцю: яшчэ раніцай 21 чэрвеня ён пайшоў, як звычайна, на працу. А 9-й яго выклікалі да начальніка калоніі, дзе паведамілі пра вызваленне паводле закона аб амністыі. Пасля гэтага палітвязня адвезлі на вакзал і пасадзілі на электрычку да Менску. Пра сваё вызваленне Алесь Бяляцкі паведаміў жонцы па тэлефоне ўжо знаходзячыся ў цягніку.



*Алеся Бяляцкага сустракаюць на вакзале ў Менску*

Старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі быў затрыманы і ўзяты пад варту 4 жніўня 2011 года. Яго абвінавацілі ў нясплаце падаткаў у буйным памеры. Падставай паслужылі рахункі, адкрытыя на імя Бяляцкага ў Літве і Польшчы - ў Беларусі Праваабарончы цэнтр «Вясна» быў забаронены ўладамі і ня мае легальнага статусу. Нягледзячы на тое, што сродкі на рахунках кіраўніка «Вясны» выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці, суд Першамайскага раёна Менска палічыў Бяляцкага вінаватым ва ўтойванні прыбыткаў у асабліва буйным памеры і 24 лістапада 2011 года прыгаварыў праваабаронцу да 4,5 гадоў пазбаўлення волі.

Пакаранне Алесь Бяляцкі адбываў у Бабруйскай папраўчай калоніі №2. У калоніі ён меў статус «злоснага парушальніка» рэжыму адбыцця пакарання, паколькі шматразова атрымліваў адпаведныя спагнанні па надуманых прычынах. Ён быў абмежаваны ў спатканнях са сваякамі, атрыманні перадачаў з волі, а таксама ў сродках, якія дазваляецца выдаткаваць на харчаванне і асабістыя патрэбы ўнутры калоніі.

Алесь Бяляцкі быў прызнаны вязнем сумлення ўрадамі краінаў Еўразвязу і ЗША, вядучымі праваабарончымі арганізацыямі і дэмакратычнай грамадскасцю.

Ён неаднаразова станавіўся лаўрэатам прэміяў у галіне абароны правоў чалавека, некалькі разоў быў намінаваны на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру.

# ПРАБЛЕМА - Ў ЗАКОНАХ. А МОЖА, Ў СУДДЗЯХ?

## Актывісту забаранілі скапіяваць матэрыялы судовай справы

Магілёўскі актывіст Аляксей Паўлоўскі падчас судовага працэсу па разглядзе ягонага пазову супраць ААТ «Магілёўскі завод «Электрарухавік» сутыкнуўся з немагчымасцю зрабіць копіі матэрыялаў судовай справы метадам фатаграфавання. Гэтая практыка шырока распаўсюджаная ў судах і звычайна ёй не чыняць перашкодаў. Але Паўлоўскаму суддзя Ленінскага суда Магілёва Тарасава забараніла гэта зрабіць. Старшыня суда Галіна Кужалева на зварот актывіста таксама адказала забаронай: «законам не прадугледжана права ажыццяўляць фотаздымку дакументаў».

Аляксей Паўлоўскі паскардзіўся старшыні абласнога суда, і ў адказе на ягоную скаргу старшыня суда Ігар Прошка падтрымаў калегаў: «нормамі ГПК прама не прадугледжана зняццё копій дакументаў метадам фатаграфавання». Цікава, што старшыня абласнога суда тут жа дадаў, што гэтае права можа быць прадастаўленае з дазволу суддзі. Пры гэтым старшыня абласнога суда ўказаў, што «артыкулам 56 ГПК прадугледжана права юрыдычна зацікаўленых у выніку справы асобаў знаёміцца з матэрыяламі справы, рабіць выпіскі з іх, здымаць копіі прадастаўленых дакументаў».

25 чэрвеня журналіст Уладзімір Лапцэвіч і праваабаронца Барыс Бухель былі на прыёме ў старшыні Магілёўскага абласнога суда Ігара Прошкі.

Уладзімір Лапцэвіч спрабаваў высветліць сітуацыю вакол магчымасці капіявання матэрыялаў судовай справы магілёўскага актывіста Аляксея Паўлоўскага.

Лапцэвіч і Бухель звярталі ўвагу старшыні абласнога суда на тое, што актывіст, які з'яўляецца зацікаўленым у выніку справы бокам, забаронай на капіяванне матэрыялаў справы пазбаўляецца магчымасці падрыхтаваць добра аргументаваную скаргу. Таксама пытанні выклікае пазіцыя суддзі, якая, на думку Ігара Прошкі, мае права дазволіць альбо не дазволіць капіяванне матэрыялаў справай шляхам фатаграфавання. Ці не становіцца суддзя, якая гэта забараняе, бокам, які фактычна зацікаўлены ў выніку разгляды справы?



*Старшыня Магілёўскага абласнога суда Ігар Прошка*

Ігар Прошка пакінуў пытанні наведвальнікаў без адказу па сутнасці. Ён, аднак, заявіў, што закон варта змяніць: "Закон некарэктна сфармуляваны, калі трактуе яго кожны суддзя па-рознаму. У гэтым плане штосці трэба рамантаваць, так бы мовіць".

Трэба адзначыць, што артыкул 56 Грамадзянскага працэсуальнага кодэксу, даючы права зацікаўленым асобам рабіць копіі матэрыялаў справы, ніяк не ўдакладняе, якім метадам гэтае капіяванне павінна ажыццяўляцца. Па логіцы судовых адказаў, «не прадугледжана» ня толькі капіяванне метадам фатаграфавання, але і ўсе астатнія метады раблення копій. Як жа гэта стасуецца з правам здымаць копіі прадастаўленых дакументаў?

Таму, на думку праваабаронцаў, закон ніяк не абмяжоўвае капіяванне матэрыялаў справы метадам фатаграфавання. Да таго ж гэтая практыка шырока выкарыстоўваецца ў судовых працэсах без аніякіх праблем.

Можа быць, праблема ўсё ж не ў заканадаўстве, а ў суддзях?

# БАБРУЙСК: МІЛІЦЫЯ СКАНФІСКАВАЛА ПОДПІСЫ ЗА «НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ»

Вечарам 17 чэрвеня супрацоўнікі міліцыі затрымалі і адвезлі ў аддзяленне бабруйскую актывістку кампаніі «Гавары праўду» Яніну Аўсянік. Яна збірала подпісы за правядзенне «Народнага рэферэндума».

Нечаканая сустрэча з супрацоўнікамі міліцыі адбылася ў доме №187 па вуліцы Гогаля. Як мяркуе Яніна Аўсянік, іх выклікала мясцовая жыхарка, якая перад гэтым паведаміла зборшчыцы подпісаў, што яе сын працуе ў міліцыі.

- Яніна паспела сабраць 34 подпісы, іх у аддзяленні забралі і не вярнулі, - распавядае бабруйская каардынатарка кампаніі «Гавары праўду» Алена Мядзведзева. - Таксама на яе склалі пратакол, але Яна адмовілася яго падпісваць. Яе пратрымалі ў аддзяленні тры гадзіны, адпусцілі каля 22.00 гадзін вечара.

Яніна Аўсянік паведаміла, што супрацоўнікі міліцыі паабяцалі выклікаць яе на размову яшчэ раз, позвай.

# СУДДЗЯ ВЫГАРАДЗІЛА НАЧАЛЬСТВА

**Клімавіцкая суддзя «закрыла вочы» на грубыя парушэнні адміністрацыйнай камісіі выканкама**

8 студзеня 2014 года жыхарка вёскі Дамамерычы Алена Марчанка была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці па ч.1 арт.15.38 КаАП адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама – яна атрымала папярэджанне за парушэнне ветэрынарна-санітарных правілаў утрымання жывёлаў у хатніх гаспадарках. Марчанка абскардзіла гэта рашэнне ў судзе Клімавіцкага раёну, і той 5 лютага накіраваў справу на новы разгляд. Аднак на новым разглядзе, 13 траўня, адміністрацыйная камісія зноў пакарала Марчанку, прычым на гэты раз ужо не папярэджаннем, а штрафам у 15 БВ (2 250 000 рублёў). Марчанка абскардзіла і гэтую, відавочна незаконную пастанову, ў судзе Клімавіцкага раёна. Суддзя Таццяна Іваненка 17 чэрвеня адмяніла пастанову і спыніла адміністрацыйную справу ў дачыненні да Алены Марчанкі.

Але прычынай для адмены сталі не грубыя парушэнні заканадаўства адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама, а тое, што, на думку суда, скончыліся тэрміны прыцягнення Марчанкі да адміністрацыйнай адказнасці.



ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ВЕТЕРИНАРНЫЙ НАДЗОР
РЕСПёУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

06-08
(индекс государственного ветеринарного надзора)

ПРЕДПИСАНИЕ №308
«25» октября 2013 года
(дата)

Кому Марченко И.В., д. Домамеричи,
(фамилия, имя, отчество и адрес владельца животного)

в соответствии с Указом Президента Республики Беларусь «О некоторых вопросах государственной ветеринарной службы Республики Беларусь» от 3.06.2013г. №253 пункт 17.9

| № п/п | Выявленные нарушения | Сроки устранения |
|---|---|---|
| 1 | Нарушения ветеринарно-санитарных правил содержания продуктивных животных в личных подсобных хозяйствах граждан утвержденных Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 29.08.2013 №758: П. 20 «В радиусе не менее пяти километров от свиноводческих ферм и комплексов запрещается содержание свиней физическими лицами в личных подсобных хозяйствах граждан». | 28.10.13 |

О выполнении предписания в срок до 30 октября 2013 года письменно сообщить по адресу: ВСУ «Климовичская райветстанция», ул. Советская, д. 113

Главный ветеринарный инспектор Климовичского района Зенько С. С.
(должность, фамилия, имя, отчество лица, выдавшего предписание)

(подпись лица, выдавшего предписание)

Предписание получил ______ Марченко
(должность, подпись) (инициалы, фамилия)
25.10.13
(дата)

Суддзя адмяніла пастанову адміністрацыйнай камісіі па "прыцягнутай за вушы" і нерэабілітуючай Марчанку прычыне – з-за пропуску прадугледжанага ч.3 арт.7.6 КаАП двухмесячнага тэрміну накладання адміністратцыйнага спагнання пасля адмены папярэдняй пастановы і адпраўкі справы на новы разгдяд.

Разгляд справы Марчанкі прыпыняўся двойчы. Першы раз Марчанка звярталася да старшыні адміністрацыйнай камісіі з хадайніцтвам аб прыпыненні паўторнага разгляду справы па паважных прычынах – ў сувязі з разглядам старшынём абласнога суда яе скаргі на пастанову Клімавіцкага суда ў частцы накіравання справы на новы разгляд; намеснік старшыні адміністрацыйнай камісіі сваёй пастановай ад 14.02.2014 г. прыпыніў разгляд справы.

Другі раз намеснік старшыні адміністрацыйнай камісіі сваёй пастановай ад 11.04.2014 г. прыпыніў разгляд справы, паколькі Марчанка знаходзілася на вучэбнай сесіі.

Абедзве пастановы былі вынесеныя на падставе п.3 ч.3 і ч.5 арт.11.2 ПВКаАП і цалкам ім адпавядалі.

Але ў пастановах камісіі аб прыпыненні разгляду не былі цалкам указаныя ўсе пункты і часткі артыкулу 11.2 ПВКаАП. Так, у пастановах былі указаныя толькі частка і нумар артыкулу, і не быў указаны адпаведны 3-ці пункт 3-й часткі, а ў другой пастанове таксама няма спасылкі па п.5 артыкулу.

Відавочна, што, калі б Марчанка настойвала на адмене пастановы і спыненні справы па такіх нікчэмных падставах, ёй ніколі не ўдалося б перамагчы ў судзе.

Гэтыя "падставы" былі выкарыстаныя суддзей Іваненкай для таго, каб абыйсці маўчаннем усе астатнія, значна больш сур'ёзныя парушэнні, якія былі дапушчаныя пры разглядах гэтай адміністрацыйнай справы.

17 чэрвеня ў судовай пастанове суддзя ўказала: "У сваёй скарзе Марчанка, не аспрэчваючы факт таго, што ў парушэнне забароны, ў сваёй асабістай гаспадарцы ўтрымлівала трох свіней…". Гэта з'яўляецца відавочным перадзёргваннем. Віна любога свінавода, за якую прадугледжана адміністрацыйная адказнасць, наступае не за сам факт утрымання свіней, калі аб'яўленая забарона на гэта, а за невыкананне выдадзенага прадпісання аб ліквідацыі свіней, альбо перашкоды іх выманню падчас эпідэміі.

Гэты, а таксама наступныя істотныя моманты суддзя абыйшла маўчаннем, каб не выносіць прыватнае вызначэнне ў адрас адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама. Камісія дапусціла наступныя значныя парушэнні:

1) Сама адміністрацыйная камісія прызнала, што працэс супраць Марчанкі быў пачаты з парушэннем парадку вядзення адміністрацыйнага працэсу. Камісіяй былі зафіксаваныя факты парушэння ўстаноўленага парадку вядзення адміністрацыйнага працэса галоўным дзяржаўным ветэрынарным урачом Клімавіцкага

Заканчэнне на 4-й старонцы

# СУДДЗЯ ВЫГАРАДЗІЛА НАЧАЛЬСТВА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

раёну сп. Зянько, які і распачаў справу супраць Марчанкі. Справа падлягала спыненню на падставе ч.2 арт. 2.2 ПВКаАП.

2) Марчанка не атрымлівала прадпісання аб устараненні парушэнняў ветэрынарна-санітарных правілаў утрымання свіней. Яно было ўручана не Марчанцы, а яе мужу, які не з'яўляецца ўласнікам гаспадаркі. Таму справа павінна была быць спыненая за адсутнасцю правапарушэння.

3) На выдадзеным прадпісанні адсутнічае пячатка дзяржворгану, які яго выдаў. Таму прадпісанне не мае юрыдычнай сілы. Да таго ж, нагадваем, яно было выпісана не Алене Марчанцы, а яе мужу. Справа павінна была быць спыненая паводле п.2 ч.1 арт.9.6 ПВКаАП, з-за адсутнасці ў дзеянні складу правапарушэння.

4) Адміністрацыйная камісія незаконна адмовіла Марчанцы ў выкліку сведак, як сведак абароны так і сведак абвінавачання. Гэтым было парушана права Марчанкі на абарону.

5) Сведкі абвінавачання не былі папярэджаныя аб адказнасці за дачу заведама ілжывых паказанняў. Таму іх паказанні не павінныя былі брацца пад увагу. Гэтага дастаткова для спынення справы па п.10 арт.9.6 ПВКаАП, з-за недаказанасці віны.

6) Пры паўторным разглядзе справы Марчанкі адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама на яе было накладзена больш цяжкае пакаранне, чым першапачатковае. То бок за факт абскарджання першай пастановы камісіі, калі Марчанку пакаралі папярэджаннем, гэтая ж камісія на паўторным разглядзе пакарала яе штрафам у 15 базавых велічыняў. Такія дзеянні парушаюць падставовыя нормы права, фактычна пазбаўляючы пакаранага права на абскарджанне.

Таксама неабходна адзначыць, што спыненне справы «з-за пропуску тэрмінаў» пазбавіла Марчанку магчымасці вярнуць заплачаную ёй пры падачы скаргі дзяржаўную пошліну. Падаткавы кодэкс і ПВКаАП не прадугледжваюць вяртання дзяржпошліны ў выпадку спынення справы на такой падставе.

Праваабаронцы лічаць неабходным звярнуцца да старшыні абласнога суда са скаргай аб змяненні падставаў для спынення справы супраць А.Марчанкі.

# МАГІЛЁЎСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР МОЖА ПАЗБАВІЦЦА ЮРЫДЫЧНАГА АДРАСУ

Дырэктар ААТ "Пропоша-ТС", які яго прадаставіў, адмаўляецца ўносіць праўкі ў дамову бясплатнага карыстання.

Прычына заключаецца ў тым, што пасля таго, як ён прадаставіў памяшканне пад юрыдычны адрас МПЦ, на яго пачаўся ціск з боку мясцовай улады. Да яго прыйшоў чалавек, які пачаў пагражаць праверкамі з боку разнастайных дзяржаўных служб, сярод якіх Міністэрства надзвычайных сітуацый (МНС), міліцыя, падаткавая інспекцыя і санітарна-эпідэміялагічная служба, калі не будзе разарваная дамова з МПЦ. У той жа самы дзень яму патэлефанаваў прадстаўнік МНС і паведаміў, што заўтра ён прыйдзе, каб здзейсніць праверку.

Раней Магілёўскае абласное ўпраўленне юстыцый паведаміла, што дамова паміж Магілёўскім праваабарончым цэнтрам і ААТ "Пропоша-ТС" заключана з парушэннем: пазначаная плошча памяшкання, якое арганізацыя прадаставіла па дамове бясплатнага карыстання, недакладная; акрамя таго, арэндатар у адпаведнасці з існуючым заканадаўствам не мог без згоды ўласніка здаць памяшканне ў бязвыплатнае карыстанне, а мог здаваць яго толькі ў субарэнду.

Пасля пержытых пагроз прадпрымальнік адмаўляецца мець справу з Магілёўскім праваабарончым цэнтрам і ўносіць неабходныя для новай дамовы змены.

Дырэктар МПЦ Уладзімір Краўчанка лічыць, што гэта ціск з боку мясцовых чыноўнікаў, якія зусім не зацікаўлены ў існаванні адзінай афіцыйна зарэгістраванай праваабарончай арганізацыі ў Магілёве.

"У прэтэнзіях з боку Магілёўскага абласнога ўпраўлення юстыцый было два моманты – недакладна пазначана плошча адданага па дамове бясплатнага карыстання памяшкання, а таксама тое, што нібыта арандатар меў права здаваць памяшканне выключна ў субарэнду, а ён без згоды ўласніка здаў памяшканне ў бязвыплатнае карыстанне", - кажа Краўчанка.

Праваабаронца згодзен з першай прэтэнзіяй, аднак з другой катэгарэчна нязгодны, бо ў адпаведнасці з законам у субарэнду можна здаваць як усё памяшканне, так і яго частку. У раней заключанай дамове арэнды ўласнік памяшкання надзяліў правам арэндатара заключаць дагаворы ад імя ўласніка, у тым ліку і на перадачу памяшкання ў субарэнду і іншыя здзелкі з маёмасцю.

У сувязі з узніклай сітуацыяй дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтра Уладзімір Краўчанка напісаў ліст у Магілёўскае абласное ўпраўленне юстыцыі, дзе патлумачыў склаўшуюся сітуацыю.

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна»*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.